**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 27 (900) 6 ліпеня 2017 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by



Глыбокае, 3.07.2017. На святочным шэсці былі і маладажоны.
*Фота Ул. Скрабатуна.*



## У Віцебску пачалі мантаж сцэны «Славянскага базару-2017»

**На галоўнай пляцоўцы Міжнароднага фестывалю мастацтваў «Славянскі базар у Віцебску» пачалі мантаж сцэнічнага абсталявання.**

Нагадаем, што згодна з праграмай «Славянскага базару-2017» афіцыйна фестываль адкрыецца 13 ліпеня, але першы канцэрт у Летнім амфітэатры пройдзе ўжо 10 ліпеня.

*Сяржук Серабро.*

Увага!!!

**Газету «Вольнае Глыбокае» можна выпісаць на 2-е паўгоддзе 2017 г ва ўсіх паштовых аддзяленнях «Белпошты» Віцебскай вобласці.**
**Індэксы выдання**: індывідуальная – 63668, кошт падпіскі на 1 месяц – 3 руб. 96 кап.; **ведамасная –** 636682 , кошт падпіскі на 1 месяц – 7 руб. 31 кап.

ISSN 2077-8023



## Полацкі раён

# На поўную магутнасць

■ **Станіслаў Раманчук.**

**Апошнім часам айчынная энергасістэма актыўна развіваецца, пасля афіцыйнага запуску днямі ў эксплуатацыю Полацкая ГЭС стала пакуль буйнейшай у краіне.**

Гэты першы аб'ект з каскаду трох станцый на рацэ Заходняя Дзвіна мае стратэгічнае значэнне для эканомікі Беларусі. За пяць гадоў працуючы сумесна з расійскім генпадрадчыкам, а таксама са спецыялістамі Украіны, Чэхіі, Сербіі беларускія будаўнікі ў 10 км ад горада пабудавалі гідраэлектрастанцыю магутнасцю звыш 21 мегават. Практычна адна гэта станцыя здольная забяспечыць таннай электраэнергіяй чатыры раёны вобласці - Лепельскі, Чашніцкі, Ушацкі і Расонскі. Дарэчы, пасля таго, як архіепіскап Полацкі і Глыбоцкі Феадосій асвяціў грандыёзнае збудаванне, яна паўгода працавала ў тэставым рэжыме і выпрацавала ўжо каля 30 млн. кілават-гадзін. Тутпоўнасцюўкамплектавалі штат работнікаў станцыі, якія прайшлі падрыхтоўку ў Расіі і на Украіне, стажыроўку на Гродзенскай ГЭС. Падчас працы над узвядзеннем гідравузла непапраўнальна змянілася, пашырыла сваё русла і водны баланс сама Дзвіна. На гэтым участку водных артэрыі пабудавалі 4 новых і адрамантавалі 5 дзеючых мастоў, зніклі ўчасткі мелкаводдзя. У перспектыве паблізу ГЭС за Полацкам думаюць узвесці яшчэ і дадатковы шлюз для пропуску судоў. На цеплаходах з абласнога цэнтра да самага старажытнага горада краіны можна будзе падарожнічаць. Прыемна, што праз месяц, напрыканцы ліпеня таксама будзе падпісаны акт аб увядзенні ў эксплуатацыю Віцебскай ГЭС, магутнасць якой будзе 40 МВт. Энергетыкі пачалі адначасова пошук інвестара і для трэцяй падобнай станцыі ля Бешанковіч па дзяржпраграме будаўніцтва айчынных ГЭС.

## Пастаўскі раён

# Спажыўца не падманеш

■ **Кастусь Александровіч**

**У наш час пры насычаным рынку вытворцам канкурыраваць за выбар спажыўца няпроста, без сучасных тэхналогій і выдатнай якасці прадукцыі дабіцца поспеху немагчыма.**

Гэта добра разумелі тры гады назад у Паставах прадпрымальнікі, якія рашыліся адкрыць тут вытворчасць мясапрадуктаў у лепшых традыцыях беларускай кухні. Зараз на іх прадпрыемстве "Фрэшфудпак" працуюць больш 60 чалавек, а іх гандлёвая марка "Уесці" добра разыходзіцца штодзень у звыш ста магазінах толькі ў беларускай сталіцы. З самага пачатку дзейнасці гэта фірма працуе толькі з ахаладжаным мясам, поўнасцю адмовілася ад прымянення харчовых дабавак і розных узмацняльнікаў смаку. Рэцэптура для выпрабу штодзень цяпер каля 4 тон каўбас, грудзінкі, шашлыку, фаршу такая, якой карысталіся нашы продкі. На маладым прадпрыемстве выкарыстоўваюць сучаснае нямецкае і польскае абсталяванне, перадавыя еўрапейскія стандарты ўпакоўкі, што адэкватна ацаніў спажывец. Яшчэ летась фірма займела ўласную свінаферму на 2 тысячы галоў і цэх забою жывёлы, што паспрыяла зніжэнню затрат і сабекошту выпускаемых мясапрадуктаў. У райцэнтры яна мае дзве ўласныя гандлёвыя кропкі, за натуральнымі прадуктамі пастаянна невялікія чэргі, хоць побач свабодна можна купіць такую ж падобную прадукцыю. Клапоціцца на "Фрэшфудпаку" і аб сваіх работніках, у штаце ёсць свой повар, які рыхтуе для іх бясплатныя гарачыя абеды. Паколькі прадпрыемства развіваецца, сёлета яно стварыць яшчэ каля дзесяці новых працоўных месц.

## Верхнядзвінскі раён

# Трагедыя пасярод ночы

■ **Чэслаў Якубовіч.**

**Рэдка які дзень на Віцебшчыне абыходзіцца без надзвычайных здарэнняў і людскіх бедаў.**

Падчас нядаўніх летніх выхадных у суботу 24 чэрвеня на тэрыторыі вобласці былі зафіксаваны толькі адзін пажар, аднак ён стаў сапраўднай трагедыяй. Пад раніцу, калі неўзабаве павінна было развіднець, у аграгарадку Боркавічы Верхнядзвінскага раёна загарэўся драўляны жылы дом па вуліцы Рабочай. Калі сюды прыехалі па выкліку суседзяў пажарныя, полымя ўжо поўнасцю ахапіла хату, перакінулася на гаспадарчыя пабудовы, ужо нават абрушыўся дах. Гаспадар дома з жонкай у той дзень адсутнічалі, дома не начавалі і гэта выратавала іх ад гібелі. На жаль, падчас тушэння агню выратавальнікі выявілі сярод абгарэлых пакояў трупы чатырох чалавек, сярод іх аднаго маленькага дзіцяці. На месца здарэння аператыўна прыбылі следчыя, былі праведзены шэраг неабходных судова-медыцынскіх экспертыз. Для гэтай сям'і пагарэльцаў здарылася вялікае непапраўнае гора, бо агонь забраў жыцці не толькі іх сына з дачкой. Недарэчна разам з 24-гадовым сынам гаспадара дома загінула яго сужыцелька, якая працавала ў ААТ "Полацкторг". Знайшла пагібель у роднай хаце і 21-гадовая дачка, маладая мама, якая знаходзілася ў водпуску па доглядзе за пяцімесячным сынам. З цягам часу спецыялісты высветляць, што стала прычынай такога страшнага здарэння, але ўжо нічога нельга будзе змяніць. Таксама пад раніцу, праз некалькі дзён агонь знішчыў склад на Талачынскім кансервавым заводзе, які, праўда, апошнім часам не эксплуатаваўся.

### Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 06.07.17 | | | | Пятніца 07.07.17 | | | | Субота 08.07.17 | | | | Нядзеля 09.07.17 | | | | Пн.10.07. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +11 | +13 | +15 | +12 | +8 | +10 | +15 | +14 | +11 | +15 | +17 | +15 | +11 | +15 | +19 | +18 | +16 | +20 | +24 |
| Ціск | 746 | 747 | 747 | 747 | 748 | 748 | 747 | 746 | 745 | 745 | 745 | 746 | 746 | 747 | 747 | 747 | 746 | 745 | 745 |
| Вецер м/сек | 2 Пн-З | 4 Пн | 6 Пн-З | 2 Пн-З | 3 Пн-З | 4 Пн-З | 9 Пн-З | 2 З | 2 Пд-З | 2 З | 7 Пн-З | 2 Пн-З | 2 Пн-З | 2 Пн-З | 5 З | 2 Пд-З | 3 Пд-З | 4 Пд-З | 6 З |
| Вільготнасць | 92 | 69 | 64 | 86 | 90 | 79 | 68 | 80 | 96 | 82 | 62 | 80 | 94 | 72 | 66 | 85 | 93 | 81 | 66 |

# Аб самым надзённым

## Суайчыннікам не варта разлічваць на зарплату 500 доляраў, хоць беларуская эканоміка пачала пакрыху расці



■ **Аляксандр Цішкевіч.**

**Такім чынам у палове рэгіёнаў Беларусі ўжо зараз відавочна, што не будзе абяцаных 500-доларавых заробкаў. Там для гэтага няма проста элементарных падстаў для рэзкага павышэння прадукцыйнасці працы і павышэння эфектыўнасці гаспадарання.**

Пачатак лета сёлета не парадаваў большасць беларусаў, бо і ў чэрвені было даволі холадна, асабліва па начах. Аднак разам з тым прыйшло прыемнае паведамленне, што Беларусь – ужо не лідар, як раней, на постсавецкай прасторы па росце спажывецкіх цэн. З паказчыкам інфляцыі 2,7 % за перыяд студзеньмай наша краіна заняла толькі 7-е месца, лепш сітуацыя з цэнамі была традыцыйна ў суседзяў з Прыбалтыкі, а таксама ў кыргізаў, армян і расіян. Спецыялісты пацвярджаюць, што беларусам дзякуючы дзеянням урада і найперш Нацбанка Беларусі ўдалося спыніць інфляцыю, па выніках года рост цэн можа не перавысіць 7 %, па гэтым паказчыку мы набліжаемся да цывілізаваных краін свету.

Адначасова перад закрыццём работы 2-й сесіі Нацыянальнага сходу 6-га склікання на сумесным пасяджэнні абедзвюх палат выступіў першы намеснік прэм'ер-міністра Васіль Мацюшэўскі і абнадзеіў, што айчынная эканоміка пакрыху пачала выходзіць з крызісу. Па яго словах, рэальная зарплата беларусаў расце трэці месяц на фоне зніжэння апошніх два гады з-за працяглай рэцэсіі. Канешне, гэта нядрэнна, але такі рост мізэрны, павышэнне заробкаў многія суайчыннікі не адчулі, асабліва ў глыбінцы.

Па-ранейшаму ў Беларусі не адмаўляюцца ад выканання пастаўленай А. Лукашэнкам задачы выйсці да канца снежня сёлета на сярэднюю зарплату ў 1000 рублёў. І ўсё б было нармальна, каб не даволі няпростае становішча на рынку працы. Здавалася б нядрэнна, што ў 1-м квартале па краіне працаўладкавалі каля 16 тысяч чалавек на новых рабочых месцах. Але Белстат выдаў нядаўна і трывожныя лічбы. Напрыканцы вясны, у маі гэтага года ў Беларусі звольнілі з прадпрыемстваў і арганізацый 62,6 тысяч чалавек. Прынята на работу было значна меней, толькі 14,4 тысяч суайчыннікаў. Канешне, летам з пошукам новай працы можна болей пачакаць, ёсць чым заняцца. Аднак за год колькасць занятых у беларускай эканоміцы знізілася на 56 тысяч чалавек.

Яшчэ больш відавочнай становіцца розніца паміж сталіцай і правінцыяй па ўзроўні жыцця. Ужо зараз ёсць гарады, дзе маюць зарплату звыш 500 доляраў, той жа Салігорск, Мінск, да гэтага паказчыка ўшчыльную наблізіліся Наваполацк, Дзяржынск і Жодзіна. З іншага боку цяпер у 56 раёнах краіны са 118 па-ранейшаму людзі зарабляюць няшмат, меней 600 рублёў у сярэднім. А ў самых бедных рэгіёнах, такіх як Шаркаўшчына і шэраг іншых раёнаў Віцебшчыны, у Мсціслаўлі, Карме, Слаўгарадзе, Хоцімску за шчасце будзе прынесці дамоў некалькі соцень рублёў.

Такім чынам у палове рэгіёнаў Беларусі ўжо зараз відавочна, што не будзе абяцаных 500-доларавых заробкаў. Там для гэтага няма проста элементарных падстаў для рэзкага павышэння прадукцыйнасці працы і павышэння эфектыўнасці гаспадарання. Застаецца адзін радыкальны крок, на казённай мове ён называецца мудрагеліста "аптымізацыя функцый і колькасці работнікаў", лічы проста кагосьці звольніць і на гэта месца болей нікога не браць. Але калі пойдуць па такім шляху, то будзе ўсплеск беспрацоўя, а пакуль пасля веснавых абурэнняў на вуліцах "дармаедаў" спакойна, народ нібыта супакоіўся..

Беларусы прывыклі жыць сціпла, у нас ціха і нібыта спакойна, хоць Нобелеўскі лаўрэат па літаратуры Святлана Алексіевіч заявіла на слуханнях у Еўрапарламенце, што нават у беларускіх вёсках жыхары пакрыўджаны на дзеючую ўладу, што яна расчаравала і не збыліся іх многія спадзяванні, а там захоўваецца моцная настальгія па жыцці ў СССР. Цяпер рэаліі зусім іншыя і добра ўжо тое, што Нацбанк у чэрвені зноў шосты раз сёлета знізіў стаўку рэфінансавання да 12 % гадавых. На нашых далейшых эканамічных паказчыках становіча адаб'ецца павелічэнне паставак Расіяй нафты ў 3-м квартале да 4,5 млн. тон і ўся гэта сыравіна паступіць па трубе.

Праўда, у нас пры многіх станоўчых зрухах у эканоміцы, у шэрагу яе галін і ў бюджэтнай сферы застаюцца праблемы. Тое, што цяпер зарабляе сталічны прагаміст, работнік IT-кампаній, банкаўскі спецыяліст, салігорскі шахцёр і праз шмат гадоў не будзе мець швачка, радавы калгаснік і правінцыйны будаўнік. Заробкі бюджэтнікаў зараз у раёне 77 % ад сярэдніх па краіне з-за сціплых магчымасцей дзяржказны, меншых падатковых паступленняў, як у мінулым. Кіраўніцтва краіны стаіць на сваім і публічна адмаўляецца праводзіць нейкія незразумелыя рэформы.

Зарабіць большыя грошы, чым у нас на радзіме можна толькі шляхам вымушанай міграцыі за граніцу, хоць бы ў суседняй Расіі. Пры гэтым давайце не будзем забываць, што ў айчынным Пенсійным фондзе ўжо ўтварылася чорная дзірка аб'ёмам 150 млн. долараў. Каб вырашаць свае праблемы, наша краіна вымушана надалей лезці ў знешнія даўгі, пра што засведчыў выпуск еўраабліґацый у суме 1,4 млрд. долараў. Так што беларуская эканоміка мае вострую патрэбу ў тым, каб цяперашні невялікі рост прадоўжыўся далейшым ажыўленнем і ў наступным 2018 годзе.

## Дзень за днём

**Беларусь размясціла еўрааблігацыі на 1,4 млрд. USD. Услед за расійскім прасеў і курс беларускага рубля. Рэальныя даходы беларусаў працягваюць падаць. Цэнтрвыбаркам прапанаваў правесці мясцовыя выбары 18 лютага 2018 года. Кіраўніцтва "Мотавела" падала заяву аб банкруцтве завода. У Мінску адмовіліся прыбіраць з вуліц палаткі з садавінай і гароднінай. У беларусаў з інваліднасцю з'явяцца персанальныя асістэнты. "Газпрам" аднавіў будаўніцтва свайго хмарачоса ў сталіцы Беларусі. Ля Палаца спорту ў Мінску зноў прайшла акцыя "Дзень вышыванкі".**

# Важнейшыя навіны свету

**Бельгія.** Старшыня Еўрасавета Д. Туск паведаміў, што лідары краін ЕС дамовіліся прадоўжыць санкцыі супраць Расіі за невыкананне ёй мінскіх дамоўленасцей.

**Англія.** Прэм'ер-міністр Т. Мэй гарантавала 3,2 млн. грамадзянам ЕС, якія тут жывуць, захаваць ім усе правы і сацыяльныя льготы пасля выхаду Брытаніі з Еўрасаюза.

**Катар.** Прадстаўнікі Кувейта перадалі ўладам патрабаванні 8 арабскіх краін парваць з Іранам, сувязі з ісламістамі, закрыць канал "Аль-Джазіра", тады яны здымуць эмбарга.

**Літва.** Часоваму паверанаму ў справах Беларусі ў Літве ўручылі ноту пратэсту з нагоды парушэння днём паветранай прасторы краіны грамадзянскім самалётам "Ан-2".

**Расія.** Беларуская пісьменніца, Нобелеўскі лаўрэат С. Алексіевіч заявіла, што каб у Данбасе не было рускай зброі, там не было б і вайны, боль і страх там на сумленні Пуціна.

**Германія.** Лідар руху "Адкрытая Расія" М. Хадаркоўскі заявіў, што хто б не прыйшоў да ўлады пасля Пуціна, але аўтарытарная сістэма захавецца, лепш парламенцкая ўлада ў РФ.

**Казахстан.** Глава МЗС К. Абдрахманаў абверг інфармацыю аб адпраўцы сваіх ваенных у Сірыю, казахі і кыргізы ні з кім па гэтым пытанні перамоў весці не будуць.

**Швейцарыя.** Савет ААН па правах чалавека ў Жэневе прадоўжыў на год мандат спецдакладчыка па сітуацыі ў Беларусі, напярэдадні там прагучала крытыка яе ўлад.

**Польшча.** Сейм краіны зацвердзіў папраўкі ў законапраект аб зносе на працягу 12 месяцаў на тэрыторыі краіны 490 помнікаў і мемарыялаў камуністычнай эпохі ПНР.

**Літва.** Міністр энергетыкі Ж. Вайчунас заявіў, што краіне па сілах калі не спыніць праект АЭС у Астраўцы, то дабіцца забароны экспарту выробленай там электраэнергіі ў ЕС.

**Фінляндыя.** Былы прэзідэнт Тар'я Халанен зняласся ў вобразе бяздомнай для дабрачыннай акцыі сабраць грошы ў падтрымку беднякоў "Дапамажы чалавеку".

**Францыя.** На прэстыжным Канскім фестывалі рэкламы Беларусь выйграла "Сярэбранага льва" ў катэгорыі "дызайн", беларусы не мелі такіх узнагарод на працягу 12 гадоў.

**Ірак.** Канадскі снайпер з войск спецпрызначэння ўстанавіў сусветны рэкорд і застрэліў баевіка Ісламскай дзяржавы з адлегласці 3,5 км, куля дасягнула мэты за 10 секунд.

**Германія.** Бундэстаг пачаў рыхтаваць заканадаўчую базу для запуску руху на дарогах агульнага карыстання беспілотных самакіруемых аўтамабіляў, іх тэсты ідуць у ЗША.

**ЗША**. Глава МАК Томас Бах пацвердзіў намер Міжнароднага алімпійскага камітэта ўвесці восенню санкцыі супраць Расіі за допінгавы скандал, звязаны з Алімпіядай у Сочы.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Павышэнне пенсійнага ўзросту, як папярэдзіў эканаміст Л. Злотнікаў, не вырашыць існуючых праблем, неабходна нам прынцыпова змяніць пенсійную сістэму.

**Бабруйск**. Стварэнне тут нашай авіябазы і іншых расійскіх ваенных баз на тэрыторыі Беларусі, як заявіў глава МЗС Расіі С. Лаўроў, немагчымае без згоды яе кіраўніцтва.

**Рэчыца.** На рабочым месцы ў ААТ "Рэчыцадрэў" павесіўся 22-гадовы работнік, вясной на такое рашыўся намеснік дырэктара ААТ "Інтэграл", былі суіцыды ў Бабруйску, Гомелі.

**Мінск.** Нападшыпнікавым заводзе з ранейшых амаль 8 тысяч рабочых і служачых засталося 1700 працуючых, упалі аб'ёмы вытворчасці, сярэдняя зарплата каля 600 рублёў.

**Ждановічы.** Упершыню ў краіне ў акваторыі Заслаўскага водасховішча пачалі ля Мінскага мора будаўніцтва новага элітнага квартала жылых апартаментаў для багатых людзей.

**Брэст.** Улады вобласці загадалі раёнам да канца года павялічыць сярэднюю зарплату на 33,9 % і давесці яе да 941,2 рубля, такі штучны рост даходаў вядзе да новага абвалу.

**Салігорск.** У аддзяленні сушкі і грануляцыі ВА. "Беларуськалій" адбылося раніцай моцнае задымленне, людзі не пацярпелі, выпуск калійных угнаенняў прадоўжыўся.

**Жодзіна.** Расійская кампанія "АЛРОСА" заказала ААТ "БелАЗ" новыя самазвалы з чыста газавымі рухавікамі, праца над праектам пачалася, цяпер у Якуціі працуе 229 БелАЗаў.

**Мінск.** Супраць беларускага рубля, як заявіў прафесар Б. Жэліба, цэнавы фактар, нізкімі сталі ў сусвеце цэны на калійныя ўгнаенні і нафту, устойлівасць нацвалюты пад пытаннем.

**Бабруйск**. Сусветна вядомы піўны канцэрн Heineken прадаў свой мясцовы піўзавод кампаніі Oasis, але яго прадукцыю і квас "Хатні" фірмы прадоўжаць выпускаць сумесна.

**Мінск.** Падчас адпачынку з сям'ёй на моры ў Іспаніі трагічна загінуў 40-гадовы міліцыянер са сталіцы ратуючы сваіх малых дзяцей, якіх панесла марское цячэнне.

**Ліда.** Да 100-годдзя абвяшчэння незалежнасці БНР мясцовы бровар выпусціў новы гатунак свайго піва "Менскае 1918" у стылі еўрапейскі лагер з 4,7 % алкаголю.

**Ваўкавыск.** Нібыта для праверкі электралічыльніка ў дом 85-гадовай пенсіянеркі з райцэнтра зайшлі дзве жанчыны і абакралі яе, міліцыя затрымала зламысніц з Ружан.

**Нясвіж.** У райцэнтры пабывалі нашчадкі роду Радзівілаў з Італіі і заявілі аб гатоўнасці перазахаваць тут прах апошняга ўладальніка знакамітага палаца і гарадской ратушы.

**Мінск.** Адзіны беларускі клуб у КХЛ "Дынама-Мінск" перад пачаткам сезона застаўся без трэнерскага штаба і 11 вядучых ігракоў, каманду чакае самы правальны сезон у гісторыі.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Браслаў.** Балюча ўдарыла па мясцовым філіяле Глыбоцкага МКК забарона Рассельгаснагляду на пастаўкі ў Расію беларускіх сыроў ягонай вытворчасці.

**Віцебск.** Інданезія закупіла новы рабатызаваны аўтаматычны назіральна-агнявы ваенны комплекс "Адунок", які распрацавалі спецыялісты мясцовага КБ "Дысплей".

**Наваполацк.** Канцэрнт "Белнафтахім" запатрабаваў ад дырэкцыі нафтаперапрацоўчага завода "Нафтан" да канца гэтага года выйсці на дзейнасць без страт.

**Докшыцы.** У райцэнтры прайшло 36-е пасяджэнне савета еўрарэгіёна "Азёрны край" з удзелам консула Латвіі ў Віцебску Угіса Скуя, былі падпісаны шэраг дагавораў.

**Дзісна.** Калектыў філіяла швейнай фабрыкі "Віцябчанка" асвоіў выпуск жаночых паліто і куртак, а таксама плашчоў і мужчынскіх пухавікоў вядомай фірмы "Лакоста".

**Віцебск.** Ураганны вецер з парывамі да 27 м у секунду паваліў у горадзе 14 дрэў, без святла засталіся 64 населеныя пункты ў 7 раёнах вобласці, былі пашкоджаны 4 фермы.

**Дуброўна.** Каля апоўначы ў райцэнтры з-за кароткага замыкання халадзільнай вітрыны загарэўся магазін "Еўраопт", агонь пашкодзіў тавары, абсталяванне, склад і сцены.

**Сянно.** У рамках праекта ЕС-ААН па падтрымцы аховы здароўя ў Беларусі для загадчыкаў фельдшарска-акушэрскіх пунктаў раёна закупілі 18 электравеласіпедаў.

**Сураж.** Больш ста жыхароў правага берага пасёлка аказаліся адрэзанымі ад аб'ектаў сацсферы, бо перастаў хадзіць паром праз Дзвіну з-за яе абмялення перад пускам ГЭС.

**Полацк.** Пасля чатырох сутак пошукаў вадалазы знайшлі цела 10-гадовага хлопчыка, які ўтапіўся падчас рыбалкі на Заходняй Дзвіне, калі вырашыў пакупацца ў рацэ.

**Браслаў.** За атрыманне хабару суд пакараў 4 гадамі турмы з канфіскацыяй маёмасці 26-гадовага супрацоўніка нацпарка "Браслаўскія азёры", ураджэнца Магаданскай вобласці.

**Глыбокае.** Па невядомай прычыне каля апоўдня пачаўся пажар у адным з дамоў вёскі Станулі, полымя знішчыла дах будынка, пашкодзіла столь і маёмасць гаспадара.

**Паставы.** Услед за скаладромам на новым спартыўна-турыстычным комплексе "Азёркі" з'явіліся кемпінгавая стаянка, пляжная зона адпачынку, сцэжынка казачных скульптур.

**Верхнядзвінск.** Каля крыжа на ўездзе ў райцэнтр з боку Полацка сустрэлі вернікі фігуру Маці Божай Фацімскай і працэсіяй праз увесь горад даставілі ў касцёл для богаслужэння.

**Віцебск.** Падчас Дня горада ўрачыста адкрылі дзве новыя скульптуры: «Чараўнік Хатабыч» ля мясцовага лялечнага тэатра і «Залатая рыбка» побач з вусцем ракі Віцьба.

*Служба інфармацыі "ВГ" (паводле тэхінфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Чым прыцягвае людзей Будслаў?

**Кожны год фэст у Будславе збірае тысячы пілігрымаў. Шмат хто з іх ідзе сюды пешкі. Што ж прыцягвае ў гэтае святое месца людзей?**

**■ Зміцер Лупач**

Не так даўно наш аўтар Кастусь Шыталь спрычыніўся да даскусіі ў Фэйсбуку на гэту тэму: ці моладзь сюды ходзіць з-за сваёй веры ці проста, каб весела правесці час. Адказы былі самыя розныя, шмат хто лічыць, што хадзіць сюды проста прыкольна. Ці так гэта, мы вырашылі спытаць у каталіцкіх іерархаў і пілігрымаў.

Дык чым жа прыцягвае людзей Будслаў?



**Арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч, Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі:**

- У сучасным свеце гэта вялікае пытанне, чым прыцягвае. Чымсьці прыцягвае. Як магніт прыцягвае жалеза, так і Божая Маці прыцягвае людзей сюды. А чалавек не можа жыць без маці. Мы бачым, у якіх складанасцях знаходзіцца сучасны свет, асабліва моладзь. Яна шукае адказу на пытанні, якія кожны дзень паўстаюць перад ёй. Гэтыя пытанні вельмі складаныя, і чалавек часам можа заблудзіцца ў гэтым жыцці. Сёння чалавек ставіць сябе на месца Бога, усхваляе сябе, а не Бога. Але ў той час сэрца падказвае, што павінна быць інакш. Душа пытаецца, ці гэтым шляхам ты ідзеш, ці гэта тая праўда, якой ты павінен жыць. І напэўна Маці Божая дасць адказ на гэтыя пытанні, каб моладзь будавала сваё жыццё на евангельскіх каштоўнасцях.



**Біскуп Аляксандр Яшэўскі, Мінска-Магілёўская архідыяцэзія:**

– Людзі ідуць і едуць у гэтае святое месца, каб пакланіцца Панне Марыі, якая сёння з'яўляецца для беларускага народа першай і галоўнай апякункай. Таму будслаў не згубіць сваёй значнасці сярод людзей нашай краіны. Таму я не пагаджаюся з тым, што моладзь ідзе сюды проста, каб весела правесці час. Нельга абагульняць усіх людзей. Я ведаю супольнасці і парафіі, дзе людзі амаль год рыхтуюцца да гэтага фэсту, таму я лічу гэта меркаванне вельмі і вельмі павярхоўным. Трэба ўмець бачыць не толькі тое, што на паверхні, але і ўнутры.



**Клерык Андрэй Струкель, Ліда:**

– Можа і ёсць які працэнт людзей, якія ідуць, каб весела правесці час, але такіх людзей мала. Большасць жа ідзе да Маці Божай з нейкай просьбай, з нейкай інтэнцыяй, каб яна дапамагла ў яго сям'і, або асабіста яму. Таму я лічу, што менавіта з такой мэтай ідуць сюды маладыя людзі.



**Клерык Алег Зямчонак, Санкт-Пецярбург:**

– Гэта залежыць у першую чаргу ад чалавека, дзеля чаго ён гэта робіць. Таксама гэта залежыць і ад нас, клерыкаў і святароў, якія павінны тлумачыць вернікам, дзеля чаго гэта робіцца.




**Павел Севярынец, Мінск:**

– Будслаў – гэта сэрца Беларусі, сэрца беларускага хрысціянства. Сюды прыходзяць і каталікі, і праваслаўныя, і пратэстанты. Калі чуеш тут усюды беларускую мову, не чуеш мацюкоў, бачыш светлых людзей, то ты разумееш, якой павінна быць Беларусь насамрэч. Якой бы яна была, калі б мы як народ трымаліся свабоды, праўды і справядлівасці. Хто не бачыў Будслава, той не ведае, як будзе выглядаць Беларусь у будучыні.

# У Глыбокім з размахам адзначылі свята вызвалення і незалежнасці Беларусі






■ Уладзімір Скрабатун

**Больш за 1 млн чалавек прынялі ўдзел у святкаванні Дня Незалежнасці па ўсёй краіне. Такая інфармацыя размешчана на сайце МУС, паведамляе БелТА.**

"У Мінску, абласных і раённых цэнтрах адбыліся святочныя мерапрыемствы, прысвечаныя Дню Незалежнасці Рэспублікі Беларусь. У іх прынялі ўдзел больш за 1 млн чалавек. Грамадскі парадак забяспечаны", – гаворыцца ў паведамленні.

Хоць не ўся Беларусь была цалкам вызваленая 3 ліпеня 1944 года, вызваленне доўжылася да канца ліпеня, аднак, менавіта 3 ліпеня 1944 года быў вызвалены не толькі Мінск, сталіца Беларусі, але і Глыбокае ды бліжэйшыя да яго населеныя пункты. Паставы, напрыклад, былі вызваленыя 5 ліпеня 1944 г.

Таму гэтае свята для глыбачан з'яўляецца ўдвая даражэй!

Як паказвае штогадовая практыка правядзення мерапрыемстваў у Глыбокім, яны праводзяцца маляўніча і па выдатнаму сцэнару. Гэта заўсёды не прамінаюць адзначыць госці нашага горада на розных інтэрнэт форумах.

Не было выключэннем і сёлетняе святочнае шэсце. Удзельнікі святкавання калонай прайшлі ад парка Перамогі да Цэнтральнай плошчы горада. Шэсце суправаджалася запамінальнымі тэатралізаванымі пастаноўкамі ў выкананні дзіцячых і юнацкіх калектываў горада.

# У Паставах з'явіцца музей аптэкі

■ Сяржук Серабро

**Віцебскае гандлёва-вытворчае рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Фармацыя» абвясціла тэндар на выраб і мантаж гістарычнай экспазіцыі "Аптэка" ў Паставах.**

Гэта не будзе асобны музей — экспазіцыя павінна размясціцца ў будынку, дзе зараз знаходзіцца аптэка, якая дзейнічае. Гэты будынак — так званы "Дом урача" — быў пабудаваны ў другой палове XVIII стагоддзя ў межах комплексу забудовы рынкавай Плошчы (цяпер — плошча Леніна).

Дом уяўляе сабой прамавугольны ў плане мураваны двухпавярховы будынак накрыты высокім вальмавым чарапічным дахам. Першапачаткова на першым паверсе знаходзіліся аптэка і лячэбніца, а на другім — жылыя пакоі.

Збіраць экспанаты для новага музея ў Паставах пачалі яшчэ ў мінулым годзе, Жанна Лагвіненка, якая загадвае мясцовай аптэкай, праз раённую газету прасіла адгукнуцца месцічаў, у якіх захаваліся старыя лекавыя ўпакоўкі, каробачкі ад лекавых сродкаў, старадаўнія бутэлечкі, шалі, драўляныя прадметы, лямпы, акуляры, ліхтары, кнігі, старыя рэцэпты, газеты і ўсё, што звязана з аптэкай і даўнінай.

Згодна з умовамі тэндара на стварэнне музейнай экспазіцыі ў Паставах "Фармацыя" плануе патраціць 190 000 рублёў. Фінансуюцца працы па стварэнні музея з уласных сродкаў прадпрыемства.

## Увядзенне новых падаткаў у 2018 годзе ў Беларусі не плануецца

**Увядзенне новых падаткаў у 2018 годзе ў Беларусі не плануецца, паведаміў міністр па падатках і зборах Сяргей Налівайка ў час анлайн-канферэнцыі на сайце БелТА.**

"Міністэрства па падатках і зборах прадаўжае кіравацца прынцыпамі дзеючага мараторыя на ўвядзенне новых падаткаў і павышэнне ставак. З 2018 года не плануецца з'яўленне новых падаткаў", – сказаў Сяргей Налівайка.

Не прадугледжваецца і павышэнне дзеючых ставак падаткаў (збораў), за выключэннем індэксацыі ставак, устаноўленых у беларускіх рублях, удакладніў міністр.

За пяць месяцаў 2017 года ў кансалідаваны бюджэт сабрана Br9 млрд, у тым ліку ў рэспубліканскі - Br3,9 млрд, у мясцовыя бюджэты - Br5,1 млрд.

Тэмп росту даходаў кансалідаванага бюджэту ў бягучых цэнах склаў 108,1%, у тым ліку рэспубліканскага бюджэту – 107 %, мясцовых бюджэтаў – 109%.

*БелТА.*

# У Іказні ўшанавалі памяць беларускага ксяндза Міхала Букляравіча, арганізатара антыбальшавіцкага паўстання ў 1919 годзе

**Актывісты мёрскай беларускай хрысціянскай дэмакратыі ў гадавіну расстрэлу хрысціянскага дэмакрата, ксяндза, правадыра антыбальшавіцкага паўстання Міхала Букляравіча наведалі Іказнь, родную вёску ксяндза.**

Міхал Букляравіч быў свядомым беларусам. Удзельнічаў у з'ездзе беларускага каталіцкага духавенства ў Дзісенскім павеце 6-7 жніўня 1918 года. *"Як верны слуга Хрыстуса, быў шчыра адданы працы дзеля духовага і матэрыяльнага дабра нашага сялянства: закладаў хаўрусныя крамы, адчыняў пачаткавыя школы, прытулкі, смела гаварыў сваім парахвіянам, што яны не Палякі, не Расейцы, а Беларусы",* – пісала 28 верасня 1919 года хадзецкая газета "Крыніца".

У чэрвені 1919 года Беларусь напоўніцу вызнала лютасць бальшавіцкага тэрору, "прадразвёрстак" і проста бандыцкага гвалту. У ваколіцах Дзісны ды Браслава ўзброеныя злодзеі адбіралі ў людзей хлеб і жывёлу, палілі маёнткі, расстрэльвалі нязгодных. У Шаркоўшчыне быў забіты праваслаўны святар Канстанцін Жданаў, шанаваны мясцовым людам. Да таго ж новыя ўлады абвясцілі мабілізацыю мужчынаў 16-43 гадоў у чырвонае войска. Людзі сыходзілі ў лес і рыхтаваліся абараняць сваё жыццё ды свой край.

Урэшце, 14 чэрвеня на парафіяльным фэсце ў гонар Найсвяцейшых Цела і Крыві Хрыстовых у Іказні сам ксёндз Міхал Букляравіч звярнуўся да тысячаў людзей і заклікаў вызваліць край ад захопнікаў. Моладзь умомант раззброіла прысутных на свяце бальшавіцкіх вайскоўцаў – і паўстанне пачалося ад прыступак касцёла.

Паўстанцам удалося ачысціць ад бальшавікоў Іказнь, Слабодку, Мілашова, Мёры, Ёдку, Чэрасы, Шаркоўшчыну, Новы Пагост, Германавічы. Бальшавіцкія дзеячы былі захопленыя альбо ўцякалі. Але сілы былі няроўныя: у чырвонай улады было рэгулярнае войска і артылерыя.

У выніку баёў паўстанцы былі разбітыя за некалькі дзён. 26 чэрвеня бальшавікі захапілі Іказнь. Ксяндза і ягоную сястру Аліцыю 27 чэрвеня прысудзілі да смерці і расстралялі ў вёсцы Бігосава. Толькі 24 сакавіка 1920 года, ужо за польскай уладай, парэшткі ксяндза і ягонай сястры былі ўрачыста перапахаваныя ў Іказні, ля касцёла.

Помнік на магіле ксяндза Букляравіча стаіць там дагэтуль, абвязаны бел-чырвона-белай стужкай


Ксёндз Міхал Букляравіч

На фота злева: сябры БХД на магіле ксяндза Букляравіча і каля касцёла.

*Паводле Паўла Северынца.*






## Заміж каментара на Пастаўскі музей аптэкі

**Ствараецца ўражанне, што Паставы заўсёды імкнуліся абставіць Глыбокае, калі не ў футболе (прайграюць!), дык у культуры.**

Пры жаданні музей аптэкі мог бы існаваць і ў Глыбокім. Ужо ў XVIII ст пры глыбоцкім кляштары кармелітаў існавала адна са старэйшых аптэк нашага рэгіёну. Пры кляштары існаваў аптэчны агарод, на якім вырошчваліся зёлкі. Аптэка мела нямала медыцынскіх кніг, а таксама шмат рознага начыння, у тым ліку і для вырабу пігулак.

На тым часе і шакалад лічыўся лекамі, яго выраблялі і прадавалі ў глыбоцкай аптэцы пры кляштары кармелітаў. Можна з упэўненасцю сказаць, што і Глыбокае мае ўсе падставы мець свой музей аптэкі. Калі б на тое было жаданне!

*Уладзімір Скрабатун.*



**Фадзей Шымуковіч,** *педагог, пенсіянер, г. Дзісна*

# Самая лепшая жонка

**"Мудрым, ды, мудрым быў той... Хто першы даў запавет людзям: Кожны хай сабе жонку ўпоравень бярэ! І будзе шчаслівы".**

*Эсхіл.*

**"Жонка – не палюбоўніца, але сябар і спадарожнік нашага жыцця, і мы павінны загадзя прывучыць да думкі любіць яе і тады, калі яна будзе сталай жанчынаю, і тады, калі яна будзе старухай".**

*В. Г. Бялінскі.*

Я дазволю сабе пачаць з прыпавесці. У далёкія часы ў Індыі жыў падзішах, у якога было чатыры дачкі, цудоўныя дзяўчаты. У яго служыў астролаг, які прадказваў яму лёс. Аднойчы падзішах прызваў да сябе астролага і сказаў яму: "Ты доўга служыў мне верай і праўдай і ні разу не прадказаў нічога дурнога. Да таго ж, як я заўважыў, ты чэсны і добры чалавек. І мне захацелася ўзнагародзіць цябе. Выбірай у жонкі любую з маіх дачок!"

Падышоў астролаг да першай дачкі і запытаў яе:

– Скажы мне, жанчына, колькі будзе двойчы два?

– Тры, – адказала тая.

"Якая эканомная будзе жонка!" – падумаў астролаг.

– А як ты думаеш, колькі будзе двойчы два? – запытаў ён у другой дачкі падзішаха.

– Чатыры, – адказала тая.

"Якая разумная будзе жонка!" – падумаў астролаг і задаў тое ж пытанне трэцяй дзяўчыне.

– Пяць, – адказала тая.

"А гэта будзе вельмі шчодрай жонкай!" – падумаў астролаг і хацеў ужо выбраць гэтую дзяўчыну, але чацвёртая дачка падзішаха раптам сказала:

– Двойчы два будзе столькі, колькі ты пажадаеш, дарагі!

"А вось гэта будзе самай лепшай жонкай, бо яна не толькі разумная, але яшчэ і мудрая!" – падумаў астролаг і ўзяў яе ў жонкі і не прагадаў.

Самая лепшая жонка – гэта мудрая жанчына. Мудрасць – гэта здольнасць не толькі не асуджаць недахопы мужа, але і дапамагаць мужу ачышчацца ад іх. Аб гэтым прасіў сваё сэрца індыйскі філосаф Шры Чынмой: "О маё сэрца! Падаруй жа мне здольнасць не асуджаць больш свет зямны". Але ж і муж не бяздушнае бервяно, а таксама павінен быць мудрым, ён такі ж чалавек!

Наш розум, жанчыны і мужчыны такі, што ўсё, што адбываецца, хоць і мала што тычыцца нас, не можа ўспрымацца абыякава, у сям'і тым больш. Наша рэакцыя ў большасці сваёй адмоўная або крытычная: розум проста не можа рэагаваць інакш, яму недазвальяльна паставіць некага не толькі вышэй сябе, але і побач. Таму ў свеце, а ў сям'і тым больш, не было б войнаў і супрацьстаянняў, калі б мы зразумелі, прынялі і захацелі змяніць сябе, аценіўшы па заслугах іншых. Але пры гэтым самае галоўнае і цяжкае – мяняць нешта ўнутры сябе. Гэта і ёсць "пераступіць праз сябе". Уступіць у супярэчнасць са сваім розумам.

Супрацьстаянне на працягу некаторага часу спачатку выспявае ва ўсведамленні не вельмі кахаючых адзін аднаго мужа і жонкі. І гэта разумовае супрацьстаянне рана ці позна павінна завяршыцца: або перарасці ў моцны сямейны скандал, які бывае прыводзіць да разводу, або вырашыцца мірам на дыпламатычным сямейным узроўні. Самая лепшая жонка, як і любая жанчына, якая валодае больш высокім адчуваннем надыходзячых нецікотаў, аддаючы справаздачу таму што адбываецца, сваім больш тонкім розумам, умудронаяй жыццёвым досведам, заўсёды сумее яшчэ ў зародку папярэдзіць гэтую бяду або знайсці шляхі "дыпламатычнага" падыходу да мужа і зможа мірна ўтрасці праблему.



Шры Чынмой, упамянуты мной раней, неадназразова пацвярджаў філасофію кахання, як галоўную рухаючую сілу чалавецтва. Ён гаварыў, што мір на зямлі, натуральна, і ў сям'і, можа быць устаноўлены толькі тады, калі кожны з нас любоў да сілы памяняе на сілу любові. Калі мы з вамі прымяняем на практыцы тое, што прапаведуем, тады наша мудрасць становіцца нашай прафесіяй. І тое, што мы прымяняем на практыцы, у сваім шлюбным жыцці і прапаведуем іншым павінна быць ЛЮБОЎ. Калі мы любім тых, хто любіць нас, мы свабодныя і шчаслівыя. А калі мы любім тых, хто не любіць нас, мы ў бяспецы. Вось яна, разгадка сілы і магутнасці Любві, як надзейнай энергіі аховы, самай лепшай жонкі і лепшага мужа.

Калі маладыя людзі капраўдваюцца: "Мы не падыходзім адзін аднаму", то гэта трэба разумець так: "Мы не хочам мяняцца, каб падыходзіць адзін аднаму, гэтаму перашкаджаюць лянота і гардыня".

Паважаныя нявесты! Перш, чым шукаць добрага мужа, набудзьце якасці прыкладнай жонкі для будучай сям'і, умейце паважаць мужа як главу сям'і, не папракаць яго ў цяжкіх жыццёвых абставінах або за недахопы характару, якія ўласцівы ўсім нам, умейце маўчаць і слухаць больш, чым гаварыць. Падумайце, якая павінна быць жонка, наблізіцеся да гэтага ідэалу – і тады з'явіцца чалавек, які будзе вам не толькі добрым сябрам жыцця, але і мужам.

Мілыя жонкі! Вельмі важна ў сям'і ўмець прамаўчаць. Часцей за ўсё менавіта жонкі гэтага не ўмеюць – і вось ляцяць словы, як у перастрэлцы, найбольш крыўдныя і найбольш балючыя. Перамаўчаць павінна ў першую чаргу жанчына. Але ж мы гордыя: як гэта так, за мной апошняе слова не застанецца? І гэта апошняе слова, на жаль, часцей за ўсё "развод"...

Сапраўднае слова стварае, а не разбурае сям'ю. У гневе не нараджаецца ісціна, яе там і не бывае. Але ж вельмі важна, каб у адносінах была ісціна. Таму патрэбна не ў гневе настаўляць на розум і крыўдзіцца, а перамаўчаць, пачакаць, пакуль бура адшуміць, адгрыміць. А яна адгрыміць хутка, таму што не будзе ў яе нагоды прадаўжацца, таму што няма перастрэлкі словамі. І вось ужо глядзіш – падышоў чалавек: "Што ты маўчыш? Давай пагаворым..." І зноў у сям'і мір і каханне. Вырашаць праблемы можна толькі тады, калі на душы мір. Калі міра няма, праблемы не рашаюцца, а толькі бушуе бура нашых гордых помыслаў і пачуццяў.

Тэму "Самы лепшы муж" прапаную раскрыць нашым любімым жанчынам.

# У Беларусі плануюць пабудаваць 500 заправак для электрамабіляў

**У Беларусі працуе канцэпцыя па развіцці прыдарожнага сэрвісу, разлічаная да 2020 года. Згодна з ёй, у Беларусі запланаванае будаўніцтва на дарогах новых АЗС, электразаправак, гандлёвых аб'ектаў, пунктаў грамадскага харчавання. Пра гэта на прэс-канферэнцыі расказаў журналістам намеснік начальніка галоўнага ўпраўлення аўтадарог Мінтранса Беларусі Сяргей Лявончык, піша Tut.by.**

Сяргей Лявончык адзначыў, што ў Мінтрансе ёсць зацверджаная схема з ужо існуючымі і планаванымі месцамі для аб'ектаў прыдарожнага сэрвісу.

«Інвестар, які пажадаў укласці грошы ў прыдарожны сэрвіс, можа выбраць вольнае месца для будаўніцтва і звярнуцца ў мясцовыя выканкамы з заяўкай. Ахвотныя ёсць. Напрыклад, у першым квартале 2017 года на АЗС адкрыліся чатыры пункты грамадскага харчавання, у другім квартале такія пункты таксама адкрываліся. Але канчатковы вынік па новых аб'ектах нам будзе вядомы да канца года».

Што тычыцца будаўніцтва электразаправачных станцый, то іх уладкаваннем на ўжо існуючых АЗС цяпер займаецца канцэрн «Белнафтахім».

«Але ёсць ініцыятыва і ад сур'ёзнай прыватнай кампаніі, якая звярнулася ў Мінтранс з жаданнем арганізаваць электрычныя зарадныя станцыі. Сёлета яны збіраюцца заключыць інвестдагавор з аблвыканкамамі аб прадастаўленні зямельных участкаў».




Інвестар хоча стварыць каля 20 электразаправак на трасах М1 і М2, пасля гэтага ён гатовы перайсці на іншыя магістральныя дарогі і ў абласныя цэнтры. Усяго прыватнік хоча стварыць сетку з 500 электразаправак. Як хутка гэта адбудзецца — залежыць ад створаных умоў. Магчыма, для сваіх мэтаў яны будуць прыцягваць крэдытныя фінансы міжнародных банкаў.

Паводле звестак Мінтранса, на 1 студзеня 2017 года на рэспубліканскіх трасах размешчаныя 386 АЗС, 157 газазаправачных станцый, 71 гасцініца, 41 мыйка, 88 ахоўных стаянак, 437 прадпрыемстваў гандлю, 562 пункты грамадскага харчавання, 75 СТА.

*Паводле tut.by*

# У Глыбоцкім раёне міліцыя знішчыла 1,1 гектара маку



**29 чэрвеня каля вёскі Шэпелева Глыбоцкага раёна міліцыя знішчыла пасевы дзікарослага маку на плошчы 1,1 гектара.**

Расліны, якія ўтрымоўваюць наркатычныя рэчывы, былі знішчаны падчас спецыяльнай праграмы «Мак» супрацоўнікамі ГНіПТЛ і УІМ Глыбоцкага РАУС, маса сабранага маку склала 93 кілаграмы, паведамляе прэс-служба УУС Віцебскага аблвыканкама.

***ННВ.***

# У Докшыцкім раёне суседзі выратавалі на пажары 87-гадовую бабулю



**29 чэрвеня ў 4:54 адбыўся пажар у прыватным доме ў вёсцы Круляўшчызна Докшыцкага раёна. Да прыбыцця пажарных суседзі выратавалі з палаючага дома яго 87-гадовую гаспадыню.**

Пенсіянерку вывелі з палаючага дома два машыністы лакаматыўнага дэпо, якія заўважылі дым, які ішоў з хаты. Агнём былі пашкоджаныя канапа і пасцельныя прыналежнасці. Прычына пажару ўстанаўліваецца, паведамляе прэс-служба МНС.

***ННВ.***

# Мінпрацы пракаментавала змены ў пенсійнае забеспячэнне асобных катэгорый грамадзян

**Міністэрства працы і сацыяльнай абароны пракаментавала змены ў пенсійнае забеспячэнне асобных катэгорый грамадзян, паведамляе БелТА са спасылкай на сайт міністэрства.**

Указ нумар 233 "Аб пенсійным забеспячэнні асобных катэгорый грамадзян" падпісаны 29 чэрвеня 2017 года. Ён накіраваны на павышэнне ўзроўню пенсійнага забеспячэння грамадзян, якія працяглы час ажыццяўлялі сацыяльна значныя віды дзейнасці і па гэтай прычыне не змаглі сфарміраваць стаж работы з выплатай абавязковых страхавых узносаў у бюджэт дзяржаўнага пазабюджэтнага фонду, патрэбны для назначэння працоўнай пенсіі па ўзросце (страхавы стаж).

Як растлумачылі спецыялісты, у бягучым годзе патрэбны страхавы стаж складае 16 гадоў і паступова павышаецца (штогод на 6 месяцаў) да дасягнення 20 гадоў (да 2025 года).

Указам прадугледжваецца магчымасць назначэння працоўнай пенсіі па ўзросце пасля дасягнення агульнаўстаноўленага пенсійнага ўзросту пры страхавым стажы не менш як 10 гадоў грамадзянам, маючым стаж работы, прадугледжаны ў артыкуле 51 закона "Аб пенсійным забеспячэнні", не менш як 40 гадоў у мужчын і 35 гадоў у жанчын. Пры такой жа працягласці страхавога стажу - не менш як 10 гадоў - назначаецца пенсія па ўзросце грамадзянам, якія працяглы час (не менш як 10 каляндарных гадоў) праходзілі ваенную службу (службу ў ваенізаваных арганізацыях), але не набылі права на пенсію ў адпаведнасці з законам "Аб пенсійным забеспячэнні ваеннаслужачых, асоб начальніцкага і радавога складу органаў унутраных спраў, Следчага камітэта Рэспублікі Беларусь, Дзяржаўнага камітэта судовых экспертыз Рэспублікі Беларусь, органаў і падраздзяленняў па надзвычайных сітуацыях і органаў фінансавых расследаванняў". Права на працоўную пенсію па ўзросце ім прадастаўляецца пры наяўнасці стажу работы не менш як 25 гадоў у мужчын і 20 гадоў у жанчын.



У Мінпрацы і сацабароны растлумачылі, што ў патрэбныя 10 каляндарных гадоў ваеннай службы (службы ў ваенізаваных арганізацыях) уключаюцца перыяды, прадугледжаныя пунктам "а" часткі другой артыкула 51 закона "Аб пенсійным забеспячэнні", за выключэннем перыядаў ваеннай службы (службы ў ваенізаваных арганізацыях), якія прыпадаюць на час знаходжання ў сацыяльным водпуску па доглядзе дзяцей. У патрэбныя 25 (20) гадоў стажу работы - перыяды работы і іншай дзейнасці, прадугледжаныя артыкулам 51 гэтага закона.

Фінансаванне расходаў на выплату пенсіі, што назначаецца па нормах указа, праводзіцца са сродкаў бюджэту дзяржаўнага пазабюджэтнага фонду сацыяльнай абароны насельніцтва Рэспублікі Беларусь (у частцы пенсіі, абумоўленай страхавым стажам) і рэспубліканскага бюджэту (у частцы пенсіі, не абумоўленай існуючым у пенсіянера страхавым стажам).

Указам таксама прадастаўлена магчымасць уключэння ў стаж работы для назначэння працоўнай пенсіі перыядаў догляду інваліда першай групы або дзіцяці-інваліда ва ўзросце да 18 гадоў, а таксама састарэлага, які дасягнуў 80-гадовага ўзросту, якія маюць патрэбу ў пастаянным доглядзе, да дасягнення даглядаючымі грамадзянамі ўзросту мужчынамі 65 гадоў, жанчынамі 60 гадоў.

Нормы ўказа ўступяць у сілу з 1 жніўня.

*БелТА.*



# Самы небяспечны абутак для кіроўцы — гэта...

**Шлёпанцы. Да такой высновы прыйшлі эксперты з кампаніі Ford.**

У кампаніі заявілі, што няправільна падабраны абутак з'яўляецца прычынай па меншай меры 1,4 млн аварый і небяспечных сітуацый на дарозе.

Першае месца ў пераліку самага небяспечнага абутку занялі шлёпанцы. Яны могуць саскочыць з нагі або заблакаваць адну з педаляў кіравання. Акрамя таго, абутак, які свабодна сядзіць на нагах, павялічвае час тармажэння на 0,13 секунды. Адпаведна, тармазны шлях пры хуткасці 95 км/г павялічваецца на 3,5 м.

Кіроўцы ў шлёпках перастаўляюць нагу з адной педалі на іншую прыкладна ўдвая павольней, чым у любым іншым абутку.

У некаторых краінах Еўропы кіраванне аўтамабілем у шлёпанцах забаронена на заканадаўчым узроўні. У Францыі за гэта спаганяюць штраф у 90 еўра, а ў Іспаніі — 200 еўра.

Спецыялісты Ford парэкамендавалі кіроўцам выбіраць абутак з падэшвай таўшчынёй не менш за 10 мм і пры гэтым не занадта шырокі, каб не націскаць на дзве педалі адначасова.

*nn.by*

# Папраўчая калонія №1 з'явіцца ў Наваполацку замест ЛПП №8

**У мэтах аптымізацыі структуры крымінальна-выканаўчай сістэмы МУС у Наваполацку ліквідуюць лячэбна-працоўны прафілакторый №8 і створаць на яго базе выпраўленчую калонію №1. Адпаведны ўказ №223 апублікаваны на Нацыянальным прававым інтэрнэт-партале, паведамляе БелТА.**

Савету Міністраў даручана ажыццяўляць фінансаванне стварaемай папраўчай установы ў межах сродкаў, прадугледжаных у рэспубліканскім бюджэце на ўтрыманне органаў і арганізацый крымінальна-выканаўчай сістэмы. Міністэрства ўнутраных спраў у трохмесячны тэрмін павінна забяспечыць ва ўстаноўленым парадку ліквідацыю лячэбна-працоўнага прафілакторыя №8 і дзяржаўную рэгістрацыю папраўчай калоніі №1, пераразмеркаваць штатную колькасць супрацоўнікаў і грамадзянскага персаналу ЛПП №8 і папраўчай установы адкрытага тыпу №15 упраўлення Дэпартамента выканання пакаранняў па Віцебскай вобласці, а таксама зацвердзіць структуру і штатны расклад ВК №1.

*БелТА.*

# Міністры ў ліпені правядуць у Саўміне прыёмы грамадзян і юрасоб

**Кіраўнікі міністэрстваў і ведамстваў правядуць у Савеце Міністраў у ліпені асабістыя прыёмы грамадзян, іх прадстаўнікоў, прадстаўнікоў юрыдычных асоб, паведамілі карэспандэнту БЕЛТА ў прэс-службе ўрада.**

Міністр культуры Барыс Святлоў правядзе асабісты прыём 7 ліпеня, міністр унутраных спраў Ігар Шуневіч – 12 ліпеня. На 14 ліпеня запланаваны прыём грамадзян міністрам лясной гаспадаркі Міхаілам Амельяновічам, на 19 ліпеня – міністрам аховы здароўя Валерыем Малашкам. Старшыня Дзяржаўнага камітэта па стандартызацыі Віктар Назаранка сустрэнецца з грамадзянамі і прадстаўнікамі юрасоб 21 ліпеня, міністр замежных спраў Уладзімір Макей – 26 ліпеня, старшыня Дзяржаўнага камітэта па навуцы і тэхналогіях Аляксандр Шумілін – 28 ліпеня.

Асабісты прыём праводзіцца з 10.00 па адрасе: вул. Савецкая, 9, пакой 103, кантактныя тэлефоны 8(017) 222-65-09, 222-63-69. Асабісты прыём міністрамі і старшынямі дзяржаўных камітэтаў ажыццяўляецца, як правіла, па папярэднім запісе.

*БелТА.*

## МНС інфармуе

**на 04.07.2017 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 376;
Гібель людзей – 55, з іх дзяцей –1;
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 22;
Гібель людзей – 1, з іх дзяцей няма

***

За **2016 год** у раёне адбылося **20** пажараў, на якіх загінула **6** чалавек.
За **2015 год** у раёне адбылося **36** пажараў, на якіх загінулі **3** чалавекі.

# З 12 ліпеня ў ПДУ пачынаецца прыём дакументаў




**Полацкі дзяржаўны ўніверсітэт плануе ў гэтым годзе набраць 1534 першакурснікі.**

План набору ў ПДУ, у параўнанні з мінулым годам, некалькі паменшыўся. У гэтым годзе запланавана прыняць 1534 першакурснікі: 855 чалавек на дзённую форму навучання і 679 – на завочную. Полацкі дзяржаўны ўніверсітэт прапануе 32 спецыяльнасці, у тым ліку і новую: арганізатар дарожнага руху. Што тычыцца дзённай формы навучання, 67,3% складаюць бюджэтныя месцы. На завочнай форме навучання прадугледжана 6,9% бюджэтных месцаў. Тэрміны прыёму дакументаў: за кошт сродкаў бюджэту з 12 па 17 ліпеня, на ўмовах аплаты з 12 ліпеня па 4 жніўня. Тэрміны залічэння абітурыентаў: за кошт сродкаў бюджэту па 28 ліпеня, на ўмовах аплаты па 6 жніўня. Дадатковы набор, пры ўмове, што засталіся вакантныя месцы, будзе ажыццяўляцца з 30 ліпеня па 1 жніўня.

*ximik.info*

